ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 54(5236)
Чацвер, 17 мая 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Немаўляты на самаабслугоўванні?

Наш горад Гродна заўсёды славіўся тым, што дашкольныя ўстановы ніколі не адчувалі цяжкасцяў у камплектаванні педагагічнымі кадрамі. Педагагічнае вучылішча справна пастаўляла выпускнікоў, не абдзялялі сваёй увагай яслі-садкі і настаўнікі, якія змянілі сваю прафесію на прафесію выхавальніка. Не было клопату з наборам тэхнічнага персаналу.

Сёння дзіцячыя дашкольныя ўстановы сутыкаюцца з праблемай, як знайсці кадры на месца тых, хто звольніўся. Адток людзей адбываецца з-за нізкай заработнай платы, незадаволенасці ўмовамі працы. Сёння любы работнік ясляў, ці то загадчык, ці то памочнік выхавальніка, атрымлівае зарплату, ніжэйшую за пражытачны мінімум.

З 1 студзеня 2001 года ў дашкольных установах уведзены стаўкі псіхолага, дзённай сястры, але смешны аклад у 13 тысяч рублёў прывабіў нямногіх.

Работнікі сістэмы адукацыі даўно чакаюць вырашэння пытання з аплатай іх працы. Будзе годная зарплата — знікне праблема забеспячэння ўстаноў кадрамі. Рэшткавы прынцып фінансавання дашкольных устаноў прывёў да таго, што матэрыяльная база дзіцячых садкоў не папаўняецца цацкамі, матэрыяламі для заняткаў, не выдзяляюцца будаўнічыя матэрыялы для рамонту памяшканняў, у недастатковай колькасці паступаюць мыючыя і гігіенічныя сродкі. Няма грошай для рамонту сапсаванага абсталявання ці замены яго на новае.

Да гэтага часу не вырашана пытанне аб памяншэнні рабочага тыдня выхавальніка з 36 гадзін да 30.

Работа з дзецьмі — гэта асаблівая работа, якая патрабуе самааддачы, самападрыхтоўкі, шырокага кругагляду, ведаў, цярпення, затраты фізічных і маральных сіл. Рабочы дзень па дванаццаць гадзін не прыбаўляе педагогу здароўя, тым больш што працуе ён не ў цішыні кабінета.

Неаднаразова работнікі дашкольных устаноў ставілі перад Міністэрствам адукацыі пытанне аб памяншэнні напаўняльнасці груп дзецьмі ў сувязі з нізкай нараджальнасцю ў краіне. Аднак да гэтага часу камплектаванне засталося ранейшым у садаўскіх групах — па 20 дзяцей, у ясельных — па 15.

Колькасць пытанняў, якія трэба вырашыць, з кожным днём павялічваецца. З новага навучальнага года пасадзе старшага выхавальніка надалі новы статус — зрабілі яго намеснікам загадчыка па асноўнай дзейнасці. Але ў аснове дзейнасці намесніка як была, так і засталася педагагічная работа. "Новаспечаныя" намеснікі адразу ж страцілі надбаўку за катэгорыю і права на атрыманне грошай на літаратуру. Шаўцы засталіся без ботаў.

Сёння дашкольныя ўстановы патрабуюць эфектыўнай дапамогі, якая не павінна зводзіцца да чарговай праверкі кантралюючымі органамі. Калі сёння дзяржава адвернецца ад праблем устаноў адукацыі і выхавання, то заўтра яна атрымае хворае грамадства, таму што каля маленькага чалавечка ў перыяд яго станаўлення не акажацца мудрага настаўніка. А можа мудрая дзяржава спадзяецца, што немаўляты пяройдуць на самаабслугоўванне?

**Тамара НАВУМАВА,**
**выхавальнік дзіцячага сада № 96 Гродна.**

## У Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь

Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 25 красавіка 2001 г. № 28 па ўзгадненні з Міністэрствам фінансаў і Міністэрствам працы ў Прыкладнае палажэнне аб агульнаадукацыйнай школе, зацверджанае загадам міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 28 чэрвеня 1993 г. № 203, унесена змяненне. Пункт 4 дадзена Прыкладнага палажэння выкладзены ў наступнай рэдакцыі: "Агульнаадукацыйная школа дзейнічае на падставе статута, які распрацоўваецца ў адпаведнасці з грамадзянскім заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і дадзеным Прыкладным палажэннем. Статут агульнаадукацыйнай школы зацвярджаецца заснавальнікам. Дзяржаўная рэгістрацыя ствараемай (рэарганізуемай) агульнаадукацыйнай школы як юрыдычнай асобы, змяненняў і дапаўненняў у статут агульнаадукацыйнай школы ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым заканадаўчымі актамі."

Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 25 красавіка 2001 г. № 29 у Правілы атэстацыі, пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь, зацверджаныя загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 25 кастрычніка 1999 г. № 642, унесена змяненне. Пункт 14 дадзеных Правілаў выкладзены ў наступнай рэдакцыі: "У агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь выпускныя экзамены праводзяцца ў 9 класах за курс базавай школы і ў 11 (12) класах — за курс сярэдняй школы.

У спецыяльных агульнаадукацыйных школах (школах-інтэрнатах) выпускныя экзамены праводзяцца ў 9 (10) класах за курс базавай школы і ў 11 (12) класах — за курс сярэдняй школы.

Вучні 11 (12) класаў па жаданні могуць праходзіць цэнтралізаванае тэсціраванне, парадак і тэрміны правядзення якога вызначаюцца Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Патрабаванні, што прад'яўляюцца на экзаменах і пры цэнтралізаваным тэсціраванні да ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, вызначаюцца вучэбнымі праграмамі.

Пісьмовыя работы, вусныя адказы і вынікі цэнтралізаванага тэсціравання вучняў па кожным прадмеце ацэньваюцца ў адпаведнасці з зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь нормамі ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў агульнаадукацыйных школ.

Вынікі цэнтралізаванага тэсціравання па аднаму або некалькіх прадметах могуць па заявах вучняў залічвацца экзаменацыйнымі камісіямі агульнаадукацыйных школ у якасці адзнакі выпускнога экзамену па адпаведнаму прадмету і ўлічвацца пры выстаўленні падагульняючых адзнак. У гэтым выпадку выпускны экзамен па прадмету вучні не здаюць".

Міністэрства адукацыі 10 мая 2001 г. за № 06-13/230 накіравала ўпраўленням адукацыі абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў пераводную шкалу тэставага бала ў пяцібальную шкалу адзнак ведаў вучняў, якія прайшлі ў 2001 г. цэнтралізаванае тэсціраванне па беларускай і рускай мовах, матэматыцы і фізіцы, для выстаўлення станоўчай адзнакі за выпускны экзамен у 11 класе агульнаадукацыйных школ, гімназій і ліцэяў.

### Шкала пераводу тэставага бала ў пяцібальную шкалу адзнак

| Прадмет | Пяцібальная шкала | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | Інтэрвал тэставых балаў | | | |
| 1. Беларуская мова | 0-40 | 41-55 | 56-70 | 71-100 |
| 2. Руская мова | 0-40 | 41-55 | 56-70 | 71-100 |
| 3. Матэматыка | 0-37 | 38-53 | 54-80 | 81-100 |
| 4. Фізіка | 0-40 | 41-51 | 52-75 | 76-100 |

У сувязі са змяненнем даты заканчэння цэнтралізаванага тэсціравання выпускнікоў сярэдніх агульнаадукацыйных навучальных устаноў Міністэрства адукацыі пісьмом ад 14 мая 2001 г. № 06-13/242 прадоўжыла тэрмін падачы выпускнікамі агульнаадукацыйных школ, гімназій і ліцэяў кіраўнікам гэтых навучальных устаноў заяў і прадстаўленне сертыфікатаў для рашэння пытання аб заліку вынікаў цэнтралізаванага тэсціравання ў якасці адзнакі выпускнога экзамену да 25 мая ўключна.





15 мая Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з вучнямі — пераможцамі міжнародных алімпіяд 2000 года.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр Лукашэнка з вучнямі — пераможцамі міжнародных алімпіяд.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.**

## Навіны

### Цікавая сустрэча

Мінскі каардынацыйна-інфармацыйны цэнтр дзіцячых ініцыятыў сумесна з ініцыятыўнай групай "Цэнтр цікавых спраў" правёў на базе сярэдняй школы № 192 дыскусійную сустрэчу "Праблемы, з якімі мы сутыкаемся. Ці ёсць выйсце?"

28 прадстаўнікоў шаснаццаці грамадскіх аб'яднанняў і дзіцячых ініцыятыў Мінска і Заслаўя вызначылі і прааналізавалі найбольш важныя праблемы, з якімі сутыкаюцца дзеці ў сваім жыцці. Напрацоўкі ўдзельнікаў дыскусійнай сустрэчы, у якіх адзначаецца адсутнасць фінансавай самастойнасці большасці дзяцей і моладзі Беларусі, пагаршэнне іх здароўя з-за неадпаведнага ладу жыцця, немагчымасць удзелу дзяцей у вырашэнні грамадска значных праблем з-за безадказнасці чыноўнікаў і нежадання іх ісці на рэальнае супрацоўніцтва, будуць выкарыстаны падчас распрацоўкі глабальнага парадку дня ў інтарэсах дзяцей (2001-2010 гг.), які будзе прыняты сёлета ў верасні на Спецыяльнай сесіі Генеральнай асамблеі ААН.

### "Усё ў маіх руках"

Пад такой назвай у Чэрвені Мінскай вобласці адбылася дыскусійная сустрэча прадстаўнікоў дзіцячых ініцыятыў і грамадскіх аб'яднанняў, праведзеная Мінскім каардынацыйна-інфармацыйным цэнтрам дзіцячых ініцыятыў у межах праекта "Глабальны рух у інтарэсах дзяцей".

Падлеткам было прапанавана выказацца аб праблемах, з якімі яны сутыкаюцца ў сваім жыцці. Гаварылася аб цяжкасці быць пачутымі падчас прыняцця рашэнняў, якія непасрэдна іх тычацца, прычым не толькі на гарадскім узроўні, але і ў школе, і ў сям'і. Падлеткі намячаюць таксама канкрэтныя дзеянні па вырашэнні сваіх праблем — "Змяніць сістэму адукацыі, каб не загружаць дзяцей непатрэбнымі ведамі, а даваць ім магчымасць набываць жыццёвыя ўменні ў сучасным грамадстве", "Нарэшце, пабудаваць басейн у горадзе і адкрыць сталовую, дзе за невялікую плату дзеці мелі б магчымасць паесці", "Каб захоўвалася ўрачэбная тайна і аказвалася кампетэнтная медыцынская дапамога".

Вынікам сустрэчы стала дыскусія аб ролі саміх дзяцей у вырашэнні ўласных праблем. Высветлілася, што большасць з прысутных чакае, каб іх праблемы вырашалі бацькі, настаўнікі, улады. Прагучала і думка, што некаторыя праблемы могуць пачынаць вырашаць самі дзеці. Але для гэтага ім недастаткова інфармацыі аб сваіх рэальных правах.

### Дарослыя ў дзіцячым руху

У Чэрвеньскім раённым цэнтры пазашкольнай работы адбыўся семінар "Дарослыя ў дзіцячым руху: досвед і праблемы". У семінары ўзялі ўдзел намеснікі па выхаваўчай рабоце і педагогі-арганізатары базавых і сярэдніх школ Чэрвеньскага раёна.

Перад прысутнымі выступілі супрацоўнікі Мінскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў сістэмы адукацыі і Мінскага каардынацыйна - інфармацыйнага цэнтра дзіцячых ініцыятыў, які створаны ў межах праекта "Глабальны рух у інтарэсах дзяцей".

Удзельнікі абмеркавалі сутнасць дзіцячага самакіравання, параўналі функцыі дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў і дзіцячых ініцыятыў, а таксама падзяліліся ўласнымі дасягненнямі ў эфектыўнай рабоце з падлеткамі ў межах пазакласнай дзейнасці. Шырока былі прадстаўлены дасягненні па рэалізацыі праекта "Глабальны рух у інтарэсах дзяцей", скіраванага на работу з рэгіянальнымі дзіцячымі ініцыятывамі.

### Будучыню будуем разам

У Заслаўі Мінскі каардынацыйна-інфармацыйны цэнтр дзіцячых ініцыятыў сумесна з сацыяльна-педагагічным грамадскім аб'яднаннем "Чазенія" правялі круглы стол "Будучыню будуем разам". Удзельнікамі былі прадстаўнікі дзіцячых ініцыятыў і дзяржструктур па рабоце з дзецьмі і моладдзю Заслаўя, Радашковіч і Ратамкі, якія сфармулявалі і прааналізавалі асноўныя праблемы, з якімі сутыкаюцца хлопцы і дзяўчаты ў паўсядзённым жыцці. Падчас дыскусіі была зроблена спроба знайсці шляхі вырашэння дзіцячых праблем на мясцовым узроўні.

**Вольга ДУБОВІК.**

Супрацоўніцтва

## Кантынуум — адзінства думкі

***На пачатку мая Еўрапейскі гуманітарны універсітэт і Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр выступілі з сумеснай ініцыятывай правядзення публічных лекцый "Кантынуум" выдатнымі замежнымі дзеячамі ў сферы палітыкі, бізнесу, культуры і навукі.***

7 мая першым госцем арганізатараў стаў вядомы польскі кінарэжысёр Кшыштаф Занусі. Для аматараў і знатакоў кінамастацтва ў Беларусі яго творчыя дасягненні маюць асаблівае значэнне — як прыклад багатага і бездакорнага ў маральных адносінах творчага лёсу, як прыклад гуманісцкай традыцыі ў асяроддзі інтэлігенцыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Плануецца, што наступныя лекцыі будуць праводзіцца рэгулярна ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры з запрашэннем прадстаўнікоў грамадскасці, урадавых і няўрадавых арганізацый краіны, дыпламатычных місій і сродкаў масавай інфармацыі. Арганізатары мяркуюць, што магчымасць прамых узаемінаў з аўтарытэтнымі замежнымі дзеячамі ўзбагаціць дыялог паміж прадстаўнікамі Беларусі і іншых краін, створыць спрыяльныя ўмовы для добрасуседскіх стасункаў, павагі і даверу.

**Ігар КАНДРАЛЬ.**



Супольны праект

## Замежная мова — жыццёвая неабходнасць

***2001 год Саветам Еўропы і Еўрапейскім саюзам пры ўдзеле ЮНЕСКА абвешчаны Еўрапейскім годам моў. Яго ўрачыстае адкрыццё на Беларусі адбылося напрыканцы сакавіка ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, які з'яўляецца вядучай ВНУ па навучанні замежным мовам. У рамках гэтага праекта запланаваны шэраг мерапрыемстваў.***

Днямі ў МДЛУ прайшоў "круглы стол" па праблеме навучання дарослых замежным мовам. Яго ініцыятарам і арганізатарам выступіў універсітэт, а дакладней — спецфакультэт замежных моў па перападрыхтоўцы кадраў.

На спецфакультэце можна вывучаць чатыры мовы — англійскую, нямецкую, французскую і іспанскую. Тэрмін навучання выбіраецца па жаданні, магчымасцях, мэтах — ад некалькіх месяцаў да двух гадоў. Пасля паспяховага заканчэння спецфакультэта выдаецца дыплом з прысваеннем кваліфікацыі. Цяпер уладальнікаў такіх дыпломаў ужо больш за дзве тысячы.

Арганізатары "круглага стала" імкнуліся прыцягнуць да яго ўвагу ўсіх, хто ў горадзе займаецца навучаннем замежным мовам дарослых. На іх запрашэнне адгукнуліся цэнтр лінгвістычнай адукацыі пры МДЛУ, выдавецтва "Лексіс", Беларуская асацыяцыя выкладчыкаў англійскай мовы, Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, вучэбны цэнтр "International House", цэнтр "Сучасны свет" БДПУ імя М.Танка, цэнтр моўнай падрыхтоўкі "SOL-MINSK", курсы замежных моў пры Доме афіцэраў. Удзельнікі расказалі пра свае падыходы ў працы, падзяліліся праектамі на будучыню. Цяпер многія спрабуюць навучаць замежным мовам. Для некаторых — гэта проста добры заробак, іншыя, а іх большасць, да гэтай справы ставяцца з адказнасцю. Апошнія якраз і сабраліся на "круглым стале". Яны гатовы аб'яднаць свае намаганні, падзяліцца вопытам і з канкурэнтаў ператварыцца ў калег. Таму можна лічыць, што пачатак вялікай сумеснай працы пакладзены ўжо. Спецфакультэт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта можа стаць цэнтрам навучання дарослых замежным мовам.

**Святлана КІРСАНАВА.**

## *Паважаныя чытачы!*

15 мая распачалася падпіска на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе 2001 года.

Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні краіны і ў агенцтвах "Белсаюздруку".

Падпісны кошт для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 635 рублёў, на квартал — 1905 рублёў, на паўгоддзе — 3810 рублёў.

Па ведамаснай падпісцы на месяц — 1375 рублёў, на квартал — 4125 рублёў, на паўгоддзе — 8250 рублёў.

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс ______ індэкс выдання

**Настаўніцкая газета**
(назва выдання) — Колькасць камплектаў ______

На **2001** год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету / часопіс ______ індэкс выдання

**Настаўніцкая газета**
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб.____ | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб.____ | |

На **2001** год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

Семінары

# Наблізіць педагагічную навуку да практыкі

*Днямі на базе Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка адбыўся рэспубліканскі метадалагічны семінар загадчыкаў кафедраў педагогікі, псіхалогіі, прыватных методык. Яго тэма — "Псіхолага-педагагічная навука на рубяжы XX — XXI стагоддзяў і ўкараненне яе вынікаў у практыку падрыхтоўкі педагагічных кадраў". Арганізатарамі семінара выступілі факультэт павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў сістэмы адукацыі БДПУ імя М.Танка і Беларуская акадэмія адукацыі.*

Уступным словам адкрыў метадалагічны семінар дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў сістэмы адукацыі БДПУ, кандыдат педагагічных навук, дацэнт Аляксандр Іванавіч Андарала.

На семінары выступілі вядомыя айчынныя вучоныя, прафесары БДПУ імя М.Танка.

Асаблівую цікавасць у прысутных выклікала выступленне рэктара БДПУ, прафесара, доктара гістарычных навук, акадэміка Міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы, прэзідэнта Беларускай акадэміі адукацыі, старшыні Рэспубліканскага педагагічнага таварыства Леаніда Нікановіча Ціханава, які расказаў пра асноўныя накірункі рэфармавання педагагічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Ён адзначыў, што наспела праблема ўдасканалення зместу адукацыі і арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу. Менавіта таму перспектыўнай асновай развіцця зместу педагагічнай адукацыі з'яўляецца мадэль асобасна арыентаванага, інавацыйнага навучання, накіраваная на стварэнне шматлікіх адукацыйных праграм, пабудаваных на вучэбна-даследчым прынцыпе.

У якасці базавых складнікаў гэтых праграм павінны выступаць гуманітарная, агульнанавуковая, агульнапрафесійная і спецыяльная падрыхтоўка, а таксама дысцыпліны дадатковых спецыяльнасцей і дысцыпліны па выбары. У сваёй сукупнасці яны будуць выступаць у якасці структуры вучэбнага плана.

Л.Н.Ціханаў зазначыў, што ўдасканаленне структуры падрыхтоўкі спецыялістаў мае на мэце распрацоўку (на аснове аналізу запытаў на педагагічныя кадры і прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь) новага пераліку спецыяльнасцей, які прадугледжвае:

пашырэнне дыяпазону профіляў падрыхтоўкі педагагічных кадраў, уключаючы адукацыйнае і выхаваўчае абслугоўванне падрастаючага пакалення, псіхолага-педагагічнае забеспячэнне розных сфер сацыяльнага жыцця;

перагляд структуры пераліку, які цяпер існуе, узгадненне асноўных спецыяльнасцей з дадатковымі спецыяльнасцямі і спецыялізацыямі;

узгадненне спецыяльнасцей у сістэме бесперапыннай педагагічнай адукацыі.

Як сказаў Л.Н.Ціханаў, мяркуецца развіццё комплексных метадаў работы, якія арыентаваны на фарміраванне схільнасцей, матываў дзейнасці, каштоўнасных уяўленняў аб будучай прафесіі, педагагічнага мыслення, што дазволіць павысіць узровень даправесійнай падрыхтоўкі. Мяркуецца пашырыць практыку інтэграцыі даправесійнай і прафесійнай адукацыі, ажыццяўлення набору моладзі ў педагагічныя навучальныя ўстановы шляхам правядзення конкурсу ў некалькі тураў.

Выступіла на семінары і Клара Усеваладаўна Гаўрылавец, акадэмік Беларускай акадэміі адукацыі, доктар педагагічных навук, прафесар кафедры педагогікі БДПУ. Яна акрэсліла кола праблем, звязаных з гуманізацыяй і гуманітарызацыяй педагагічнай адукацыі. Вывучэнне гуманітарных дысцыплін павінна стаць асновай фарміравання грамадзянскай самасвядомасці і маральна-эстэтычнай культуры. Клара Усеваладаўна зазначыла, што гуманізацыя педагагічнай адукацыі дапускае далейшую дыферэнцыяцыю зместу адукацыі, пашырэнне свабоды выбару, падтрымку творчых пачынанняў асобы. Абавязковай умовай развіцця творчага патэнцыялу будучага педагагічнага работніка з'яўляецца ўдзел кожнага студэнта ў навукова-даследчай рабоце кафедр і навуковых калектываў. На думку прафесара Гаўрылавец, пры вызначэнні зместу адукацыі неабходна вялікую ўвагу надаваць яго выхаваўчай функцыі, фарміраванню духоўнасці і маральнасці педагагічнага работніка, яго навуковаму светапогляду, культуры псіхалагічнага і педагагічнага мыслення, матывацыйна-каштоўнасным адносінам да педагагічнай дзейнасці. Менавіта таму асобая роля тут належыць факультатывам па прыкладных педагагічных тэхналогіях.

З дакладам "Метадалагічныя аспекты развіцця шматузроўневай педагагічнай агульнай падрыхтоўкі студэнтаў педагагічных універсітэтаў" выступіў загадчык кафедры педагогікі БДПУ, прафесар, доктар педагагічных навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук вышэйшай школы І.І.Цыркун. Ён адзначыў, што развіццё новых педагагічных тэхналогій патрабуе прынцыпова новага ўзроўню камп'ютэрнага забеспячэння, стварэння комплексаў вучэбна-метадычных сродкаў на магнітных носьбітах, пашырэння доступу будучых педагагічных работнікаў да айчыннага і замежнага банка акадэмічных ведаў. Выкарыстанне навейшых інфармацыйных тэхналогій, пераваг дыстанцыйнага навучання (асабліва пры арганізацыі павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў) стане асновай удасканалення форм атрымання педагагічнай адукацыі. Прафесар І.І.Цыркун зазначыў, што стварэнне завершанай шматузроўневай сістэмы педагагічнай адукацыі запатрабуе далейшай дыверсіфікацыі школьнай адукацыі з мэтай абнаўлення і стварэння сістэмы даправесійнай педагагічнай падрыхтоўкі.

Удасканаленне сістэмы сярэдняй спецыяльнай адукацыі прадугледжвае правядзенне мерапрыемстваў па аптымізацыі сеткі адукацыйных устаноў, якія забяспечваюць цыкл сярэдняй спецыяльнай педагагічнай адукацыі з адпаведнай дзяржаўнай атэстацыяй і інш.

Як лічыць прафесар Цыркун, развіццё вышэйшай педагагічнай адукацыі мяркуе збліжэнне мэт, зместу і форм арганізацыі падрыхтоўкі педагагічных кадраў і выхавацеляў ва універсітэтах і пединстытутах, якое прывядзе да ўмацавання іх супрацоўніцтва ў вучэбна-навуковай дзейнасці праз злучэнне навуковых распрацовак і іх рэалізацыю ў вучэбным працэсе.

А на ўзроўні ж паслядыпломнай адукацыі будзе значна пашыраны спектр адукацыйных праграм, якія задаволяць запыты работнікаў сферы адукацыі як на павышэнне свайго тэарэтычнага ўзроўня, так і на набыццё новых практычных уменняў і навыкаў, павышана гнуткасць і варыятыўнасць арганізацыйных структур, што дазволіць ім своечасова рэагаваць на запыты і патрабаванні работнікаў адукацыі. Адсюль вынікае, што пашырыцца ўзаемадзеянне сістэмы паслядыпломнай адукацыі з сістэмай сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі ў пытаннях распрацоўкі і рэалізацыі адукацыйных праграм, якія забяспечваюць бесперапынную педагагічную адукацыю.

В.А.Капранава, загадчыца кафедры педагогікі вышэйшай школы і сучасных выхаваўчых тэхналогій, доктар педагагічных навук, акадэмік Расійскай акадэміі педагагічных і сацыяльных навук, сваё выступленне прысвяціла актуальным праблемам развіцця педагагічнай тэорыі і практыкі адукацыі за мяжой.

Пытанню метадалагічных праблем фарміравання сацыяльна-псіхалагічнай падрыхтоўкі будучых настаўнікаў прысвяціў свой даклад загадчык кафедры агульнай і дзіцячай псіхалогіі БДПУ, прафесар, доктар псіхалагічных навук, акадэмік Беларускай акадэміі адукацыі Якаў Львовіч Каламінскі.

Пра актуальныя праблемы падрыхтоўкі навуковых і навукова-педагагічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі гаварыў у сваім выступленні першы намеснік старшыні Вышэйшага атэстацыйнага камітэта прафесар, доктар педагагічных навук, акадэмік Беларускай акадэміі адукацыі Уладзімір Паўлавіч Пархоменка.

Рэспубліканскі метадалагічны семінар яшчэ раз пацвердзіў асноўныя палажэнні "Канцэпцыі развіцця педагагічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" і пераканаў прысутных у тым, што будзе ажыццяўляцца паслядоўнае пашырэнне навукова-даследчай дзейнасці вышэйшай педагагічнай школы, накіраванае на вырашэнне фундаментальных праблем, асабліва ў такіх галінах тэарэтычных ведаў, як педагогіка, псіхалогія, філасофія, сацыялогія, культуралогія, чаму будзе садзейнічаць адкрыццё саветаў па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый па новых спецыяльнасцях на базе дзеючых доктарскіх саветаў. Вышэйшая педагагічная школа павінна стаць рэальным асяроддзем фарміравання навуковых школ, комплексных навуковых калектываў, творчых даследчых груп, а на базе вучэбнага працэсу павінна забяспечвацца развіццё актыўнасці студэнтаў і выкладчыкаў. Падчас работы семінара была арганізавана выстава-продаж вучэбнай, метадычнай, навуковай літаратуры па праблемах удасканалення прафесійнай падрыхтоўкі будучага настаўніка.

Пасля завяршэння работы семінара я сустрэўся з дэканам факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў сістэмы адукацыі Аляксандрам Іванавічам Андаралам і папрасіў яго падзяліцца ўражаннямі аб рабоце семінара. І вось што ён сказаў:

— Псіхолага-педагагічная навука шмат зрабіла для падрыхтоўкі педагагічных кадраў. Але нярэдка навука, яе вынікі не працуюць на канчатковы вынік — не ўкараняюцца вынікі навукі ў практыку падрыхтоўкі педагагічных кадраў. Рэспубліканскі метадалагічны семінар высвеціў недахопы ў гэтай справе і акрэсліў шляхі развіцця і ўдасканалення яе. Праведзены семінар — гэта пачатак вялікай працы па выкарыстанні вынікаў псіхолага-педагагічнай навукі ў практыцы падрыхтоўкі педагагічных кадраў. Над гэтай праблемай будзе актыўна працаваць і наш факультэт.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**старшы выкладчык кафедры кіравання Мінскага абласнога ІПК.**



Дыплом І ступені на рэспубліканскай алімпіядзе па нямецкай мове заваявала вучаніца 9 класа віцебскай сярэдняй школы № 34 Ірына Арцюх (на здымку).

Нямецкую мову яна вывучае з другога класа, англійскую — з шостага.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Нефармальныя аб'яднанні

# Моладзь шукае сябе

***У сярэдняй школе № 87 сталіцы ўжо год дзейнічае дыскусійны клуб "Адкрыццё". Яго арганізавала Святлана Пятроўна Ляшчынская, настаўніца гісторыі, вельмі актыўны чалавек, разам з якой вучні абмяркоўваць злабадзённыя пытанні грамадскага жыцця, маладзёжныя праблемы. Вось і апошняе пасяджэнне клуба на тэму "Нефармальная моладзь Мінска" не стала выключэннем.***

Нефармальныя арганізацыі засноўваюцца на міжасабовых адносінах, уключаючы абавязковае выкананне некаторых рашэнняў гурта. Дзейнасць арганізацый, якія прычыняюць грамадству шкоду, забараняецца законам. Асаблівасць нефармальных аб'яднанняў у тым, што іх арганізоўваюць людзі, якія не маюць трывалага сацыяльнага грунту. Мабыць, таму іх асноўная мэта — даць выйсце залішняй энергіі.

Напрыклад, рух панкаў узнік у 70-я гады ў Англіі. Панкі лічаць сябе свабоднымі людзьмі і жадаюць жыць у свабоднай краіне. Для іх не існуе каштоўнасцей, у іх няма лідэраў. Яны хочуць праўды — той, пра якую піша часопіс, што выдаюць анархісты.

Нефармальная арганізацыя "Грант" узнікла ў 90-я гады ў ЗША. Яе прадстаўнікамі лічаць сябе самымі адданымі прыхільнікамі гурта "Нірвана" і халоднага піва. Але яны гавораць, што на гурт маліцца не трэба. Музыка і парэзаныя джынсы — праяўленне пратэсту, за што часам ім і даставалася. Сёння колькасць прыхільнікаў стылю змяншаецца, бо музыка "Нірваны" выходзіць з моды, але, як запэўнілі нефармалы, яна застаецца з імі надоўга ў жыцці.

Рэвалюцыі ў глабальным маштабе жадаюць маладыя прыхільнікі сацыял-анархістаў. Іх мэта — пабудаваць грамадства, у якім не існавала б ніякай сістэмы і ўсім было б добра. Яны хочуць зрабіць усіх багатымі. Але як ажыццявіць рэвалюцыю, яшчэ не вырашылі. Цяпер яны займаюцца стварэннем фундамента для далейшых дзеянняў.

Марыя Царова, дама з рыцарскага клуба "Меч і груган", расказала пра дзейнасць прыхільнікаў сярэднявечча. Рыцарскія клубы ёсць і ў нашай краіне, і за мяжой. Яны арганізоўваюць шыкоўныя фестывалі. Рыцары могуць паспрачацца ў сіле, рабіць даспехі, дзяўчынкі займаюцца шыццём, натхняюць юнакоў на подзвігі. Але клуб — не гульня. Сярод яго прадстаўнікоў — людзі розных узростаў: ад 13 да 30 і старэйшыя. Для многіх рыцарства не толькі захапленне — яно стала стылем іх жыцця.

Сярод моладзі шырока распаўсюдзіўся і рух футбольных фанатаў. Ён узнік у 50-я гады ў Англіі. Фанаты — футбольныя хуліганы. Як расказалі фанаты мінскага "Тарпеда", яны вялікія заўзятары сваёй каманды. Каб падтрымаць футбалістаў, ездзяць ва ўсе гарады краіны. Але, у адрозненне ад спартсменаў, для іх матчы падзяляюцца на таварыскія і баявыя. Таварыскія — калі фанаты спаборных каманд не канфліктуюць між сабой. Баявыя — калі трэба быць гатовымі да ўсяго, вытрымаць абарону і абавязкова даць адпор. Абараняць на выездах навічкоў-фанатаў і дзяўчынак-фанатак — закон. Яны лічаць, што імі кіруе дух прыгод. Але, як адзначылі на дыскусіі, фанатамі, на жаль, кіруе псіхалогія натоўпу.

Нефармальнай арганізацыі "Стар", што дзейнічае пры школе № 87, ужо чатыры гады. Яе курыруе педагог-арганізатар Маргарыта Рыгораўна Гарохава. Сярод некаторых задач арганізацыі — садзейнічанне духоўнаму, інтэлектуальнаму і фізічнаму развіццю, удасканаленню характару, навучанне жыць у адзінстве з грамадствам і прыродай, фарміраванне патрэбнасці ў самаўдасканаленні, быць карысным людзям.

Як адзначыла Маргарыта Рыгораўна, вучні займаюцца грамадскай работай не дзеля выдатнай адзнакі, а на карысць усім. Арганізацыя аб'ядноўвае настаўнікаў і вучняў. Мерапрыемствы арганізоўваюцца не па жаданні адміністрацыі школы, а намаганнямі саміх школьнікаў. Праводзяцца дні самакіравання, працоўных спраў, уборкі, экскурсіі, гульні, адзначаюцца святы і інш. Праз гэтую арганізацыю праходзяць "цяжкія" вучні. Ёсць жа розніца ў тым, калі з імі размаўляюць настаўнікі і калі "выхоўваюць" іх равеснікі. Арганізацыяй кіруюць прэзідэнт і парламент, якія выбіраюцца кожны год. Самакіраванне ажыццяўляецца ў адпаведнасці са статутам школьнага аб'яднання. Задача кожнага новага прэзідэнта — палепшыць работу рэспублікі "Стар". Быць кіраўніком арганізацыі — вельмі сур'ёзная справа, якая патрабуе вялікіх намаганняў. А хутка выбары. Многія вучні, відаць, аддадуць свой голас за Марыю Шубянок.

— Я доўга разважала, перш чым пайсці на такі крок. Разумею, што будзе нялёгка і вучыцца, і кіраваць, але я ўпэўнена, што з добрай камандай мы дасягнем сваёй мэты. Калі я штосьці пажадаю — абавязкова зраблю. Мы жадаем, каб у спаборніцтва ўключыўся кожны клас і хацеў быць лепшым. Асаблівую ўвагу аддадзім вучням 5-7 класаў, з якімі будзем праводзіць грамадскую работу. Цяпер у арганізацыі 180 чалавек. Мы хацелі б усіх бачыць актыўнымі і дастойнымі.

Больш ураўнаважаны кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Трымбавольскі сказаў:

— У многіх школах ёсць арганізацыі, з якімі мы будзем наладжваць сувязь, каб праводзіць сумесныя мерапрыемствы і конкурсы, дзяліцца вопытам. Я лічу, што змагу зрабіць карыснае для школы.

Анастасія Курленя таксама паабяцала зрабіць шмат карыснага:

— Мы дапаможам вучням знайсці сабе новых сяброў, вырашыць цяжкія для іх пытанні.

Праграмы ўсіх кандыдатаў вельмі цікавыя і разнастайныя. Патрэбны толькі воля і жаданне ўсё задуманае рэалізаваць.

А закончыць гэты матэрыял мне хочацца такімі словамі: "Ва ўсіх ёсць шчаслівая зорка, але ў кожнага яна свая. Каб яны мірна ўжыліся на небе, неабходна ўважліва паглядзець на тых, хто побач з вамі. І на зямлі ўсім будзе жыць лягчэй і цікавей".

**Сяргей ЗАБАРОНЬКА,**
**студэнт Белдзяржуніверсітэта.**

На маю думку

# Эканамічна выгадны варыянт

***Паколькі гаворка пойдзе пра інстытуты ўдасканалення настаўнікаў, не лішне будзе нагадаць, што яны з'явіліся тады, калі маладая савецкая ўлада пачала рэалізоўваць сваю патаемную мару — зрабіць увесь народ пісьменным і культурным. Большасць чытачоў памятае апавяданне Чынгіза Айтматава "Настаўнік", калі чалавек, які ўмеў чытаць, пісаць і лічыць, вучыў іншых. Пра гэта мне расказвала і мая маці, якая таксама праходзіла курсы ліквідацыі непісьменнасці.***

Вось такіх настаўнікаў і падвучвалі ў ІУН. І нядрэнна. Заслуга ІУН у развіцці пісьменнасці, культуры, а значыць і тэхнікі — вялізная. Дзякуючы гэтым інстытутам мы да пачатку Вялікай Айчыннай вайны былі досыць падрыхтаваны ў тэхнічных і культурных адносінах.

З-за гібелі многіх настаўнікаў падчас акупацыі пасля вайны роля ІУН не паменшылася. Пазней даводзілася пастаянна "дакваліфікоўваць" настаўнікаў, якія скончылі двухгадовыя настаўніцкія інстытуты. Так было да 70-х гадоў. Да гэтага часу амаль усе настаўнікі з няпоўнай вышэйшай адукацыяй закончылі пединстытуты. У кожную школу прыйшлі спецыялісты з поўнай вышэйшай адукацыяй, а калі прыходзіў чалавек без яе, яму адразу ж рэкамендавалі паступаць у ВНУ завочна. Можна сказаць, што ІУН да гэтага часу сваю задачу выканалі. Каэфіцыент карыснага дзеяння іх рэзка паменшыўся, яны сталі стратнымі для дзяржавы. Перафарміраваць бы іх тады ў факультэты павышэння кваліфікацыі пры педагагічных ВНУ. Але гэтага не здарылася, хаця ўжо тады ў кожным абласным цэнтры Беларусі педагагічная ВНУ была.

У 1967 годзе са школы мяне запрасілі ў тэхнікум, дзе я і працаваў 20 гадоў. За гэты час мяне тройчы накіроўвалі павышаць сваю кваліфікацыю на адпаведны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (сёння — БДПА). З'явілася выдатная магчымасць параўнаць ІУН і ФПК.

ІУН у Магілёве размяшчаецца ў цудоўным школьным будынку на 1000 месцаў з цёплымі памяшканнямі, выдатнай мэбляй, абсталяваннем, бібліятэкай і г.д., ён мае штат каля сотні чалавек, але не мае... ніводнага вучня!

У БПІ на факультэце павышэння кваліфікацыі мяне сустрэлі два памяшканні агульнай плошчай каля 30 кв.м, адно з якіх — кабінет завуча (ён называўся метадыстам) з шафамі для дакументацыі. Тут жа знаходзілася і справавод — пазней малодшы метадыст з абавязкамі сакратара-машыністкі. Другое памяшканне — кабінет дэкана ФПК, таксама з шафамі для дакументацыі. Усе трое выдатна замянялі адзін аднаго ў выпадку адсутнасці ці захворвання кагосьці з супрацоўнікаў.

А цяпер параўнайце, паважаны чытач, — вялізная школа са штатам, але без адзінага вучня, і 30 кв.м з трыма работнікамі! А работу ФПК выконваў лепш, чым ІУН. Параўнайце і выдаткі дзяржавы. Пры гэтым ФПК мог весці навучанне трох-чатырох і больш груп адначасова да 30 чалавек у кожнай. ІУН, як правіла, прымаў і прымае сёння не больш за дзве групы адначасова. Не любіць лішняга шуму дырэкцыя гэтай установы — і ўсё тут! А падстава — няма больш месцаў у інтэрнаце. Тады навошта вялізны інстытут? І назву ён атрымаў новую — інстытут павышэння кваліфікацыі... і яшчэ тры радкі. Гульня слоў? Не, не скажыце! Падстава для палягчэння дзяржаўнай казны — выдаткі на яго ўтрыманне сталі на парадак вышэйшымі. Але дзяржаве было б эканамічна выгадна перадаць ІУН у педагагічныя ВНУ як факультэты павышэння кваліфікацыі. Кадры выкладчыкаў забяспечвалі б кафедры. У выпадку захворвання аднаго з іх лёгка замяніць другім.

У ІПК спецыялістаў запрашаюць метадысты — каля 90 працэнтаў з педагагічных ВНУ, каля 10 працэнтаў — са школ (пад тыя 10 працэнтаў падпадае і аўтар гэтых радкоў). Параўнаем падрыхтоўку слухачоў. У ІПК усе недахопы спіхваюць на абставіны. На ФПК ж падрыхтоўка на ступень вышэйшая: абсталяванне ўсёй ВНУ ў распараджэнні слухачоў, выкладчыкі працуюць, абапіраючыся на матэрыяльную базу.

ФПК найлепшым чынам упісваюцца ў работу педагагічных ВНУ, бо пік курсаў павышэння кваліфікацыі прыпадае на чэрвень, калі заняткі ў школах скончыліся і праводзяцца рамонт, гаспадарчыя работы, а ў ВНУ закончаны заняткі і ідзе летняя экзаменацыйная сесія, а аўдыторыі і выкладчыкі на 85 працэнтаў вольныя.

Зімовыя канікулы школьнікаў зноў-такі супадаюць з зімовай сесіяй студэнтаў, пасля чаго ў іх канікулы да пачатку лютага. Таму зімовыя курсы на ФПК, калі яны нават 4-тыднёвыя, пройдуць для настаўнікаў з найменшым адрывам ад "вытворчасці".

Чаму ж тады ІПК не рэфарміравалі ў ФПК? Прычына тут чыста суб'ектыўная. На курсах ФПК мы, слухачы, заўважалі, што нам не вельмі рады ў ВНУ. Выкладчыкі неахвотна ішлі да нас у аўдыторыю. Як стараста групы і, зразумела, прыбліжаны да загадчыка кафедры і выкладчыкаў я разгаварыўся з імі на гэтую тэму. "Ды блытаецеся вы ў нас пад нагамі, — шчыра прызналіся яны. — Гадзіны, калі выкладчык працуе з вамі, не тарыфікуюцца, а ідуць дадаткова як замена. А да заняткаў з вамі трэба рыхтавацца значна больш, чым да студэнцкай лекцыі. У расклад, што складаецца ў пачатку семестра, вашы заняткі таксама не ўносяцца, а ставяцца ў наш вольны час, які ўжо запланаваны намі для іншых мэтаў". На маё пытанне "Калі пазбавіцца ўсіх гэтых няўвязак, становішча выправіцца?" адказ быў станоўчым: "Так, вядома ж, але гэта павінны вырашаць на ўзроўні Міністэрства адукацыі і кіраўніцтва ВНУ".

На жаль, гэтыя пытанні не сталі вырашаць, а проста выкінулі ФПК з ВНУ ў асобныя ІПК. Вялізныя сродкі дзяржавы спачатку былі патрачаны на будаўніцтва, а цяпер ідуць на ўтрыманне гэтай структуры. Але калі перадаць усе абласныя і Мінскі гарадскі інстытут павышэння кваліфікацыі пад школы, то грошай, што вызваляцца, хопіць на фінансаванне вялікай колькасці адукацыйных устаноў.

Дзеля пашырэння метадкабінетаў і ІПК быў прыдуманы лозунг: "Метадыст — гэта чалавек, які стаіць паміж вучоным і настаўнікам". Але навошта яму тут стаяць? Хіба настаўнік не прачытае сам тое, што напісаў вучоны? Няхай метадыст будзе настаўнікам. А метадычнай работай сярод настаўнікаў заўсёды займаліся і займаюцца раённыя метадычныя кабінеты. Але і тут ёсць перакос. Цяпер у кожным раённым аддзеле адукацыі ў метадычным кабінеце будзе 15 метадыстаў замест аднаго-двух! Па краіне — звыш 2250 лішніх кіраўнікоў! Падстава: настаўніка трэба кантраляваць. Але колькі ўжо кантралёраў над настаўнікам, навошта іх яшчэ пладзіць?

Давайце палічым эканамічную карысць прапанаванай вышэй ідэі. Страты — нуль, прыбытак у бюджэты ўсіх узроўняў — некалькі дзесяткаў мільярдаў рублёў. Звальненняў — нуль, бо спецыялісты з ІПК прыйдуць у школы, дзе сёння не хапае настаўнікаў. Безадходная тэхналогія. І вельмі высокаэфектыўная!

**Іван ШЧАРБАКОЎ,**
**настаўнік вышэйшай катэгорыі.**

Магілёў.

Спорт

# На прызы адкрыцця сезона

У Мінску на стадыёне спартыўнага комплексу "Вікторыя" завяршыўся адкрыты турнір беларускіх картынгістаў на прызы Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці вучняў. Разам з калектывамі клубаў абласцей і сталіцы ўзнагароды ў пяці класах машын аспрэчвалі і госці з Латвіі.

Большасць удзельнікаў — школьнікі, навучэнцы, студэнты. Удзельнічалі юныя барысаўчане браты Юра і Марат Талецкія, іншыя прадстаўнікі спартыўных сем'яў. Найбольш паспяхова выступілі картынгісты РЦТТВ, якія заваявалі большасць вышэйшых узнагарод і першынствавалі ў неафіцыйным камандным заліку.

**В.АСТРЫНСКІ.**



Прафесійная кампетэнтнасць

# Шанс рэалізаваць сябе

***Кампетэнтнасць — гэта агульны ацэначны тэрмін, які азначае здольнасць да дзейнасці з веданнем справы і характарызуе меру адпаведнасці разумення, ведаў і уменняў рэальнаму ўзроўню складанасці задач, што выконваюцца, і праблем, якія вырашаюцца.***

Прафесійная кампетэнтнасць майстра вытворчага навучання звязана з фарміраваннем на базе агульнай адукацыі такіх прафесійна значных для асобы і грамадства якасцяў, якія даюць магчымасць найбольш поўна рэалізаваць сябе ў канкрэтных відах працоўнай дзейнасці і адпавядаюць грамадска неабходнаму раздзяленню працы і рыначным механізмам стымулявання найбольш прадуктыўнага і канкурэнтаздольнага функцыянавання работніка той ці іншай кваліфікацыі і профілю.

Якасць навучання цалкам залежыць ад прафесійнай кампетэнтнасці майстра вытворчага навучання, які павінен быць спецыялістам высокай кваліфікацыі. Майстар вытворчага навучання павінен разумець сутнасць і сацыяльную значнасць сваёй прафесіі, мець сфарміраваныя прафесійныя інтарэсы, валодаць пачуццём прафесійнай адказнасці за вынікі сваёй працы. Немагчыма арганізаваць навучальны працэс без ведання асноўнай нарматыўнай і вучэбна-праграмнай дакументацыі і метадычных рэкамендацый па пытаннях выхавання і прафесійнага навучання. Сучасны майстар вытворчага навучання павінен быць здольным ва ўмовах развіцця тэхнікі і зменлівай сацыяльнай практыкі да пераацэнкі назапашанага вопыту, аналізу сваіх магчымасцяў, павінен умець набываць новыя веды з выкарыстаннем сучасных тэхналогій. Пры арганізацыі навучальнага працэсу ў групе сёння неабходна валодаць камп'ютэрнымі метадамі збору, захоўвання і апрацоўкі інфармацыі, што прымяняецца ў сферы прафесійнай дзейнасці майстра.

Майстар павінен умець рацыянальна арганізаваць сваю працу, валодаць агульнапрацоўнымі навыкамі і ўменнямі (планаваннем, аналізам выкананай работы, арганізацыяй рабочага месца і інш.), мець разрад вышэйшы за той, па якім рыхтуе навучэнцаў згодна з кваліфікацыйнай характарыстыкай. Ён павінен быць здольным да аналізу вынікаў і працэсу ўласнай працы, пастаноўкі і рэалізацыі задач у галіне прафесійнага самаўдасканалення. Неабходна таксама ведаць Закон "Аб адукацыі Рэспублікі Беларусь", Канвенцыю аб правах дзіцяці, садзейнічаць абароне правоў асобы навучэнца. Надзвычай важна валодаць лексічным мінімумам замежнай мовы, мець жаданне працягваць яе вывучэнне і ажыццяўляць прафесійную дзейнасць у іншамоўнай сферы.

Майстэрства — гэта сінтэз асобасна дзелавых якасцяў і ўласцівасцяў асобы, які вызначае высокую эфектыўнасць педагагічнага працэсу. У ім можна выдзеліць чатыры даволі самастойныя элементы: майстэрства арганізатара калектыўнай і індывідуальнай дзейнасці навучэнцаў; майстэрства пераканання; майстэрства перадачы ведаў, уменняў і навыкаў і фарміраванне вопыту дзейнасці; майстэрства валодання педагагічнай тэхнікай.

Кампетэнтнасць майстра вытворчага навучання непасрэдна звязана з высокім узроўнем яго прафесіяналізму. Для яго дасягнення неабходна фарміраваць і шліфаваць прафесійныя ўменні і навыкі і на гэтай аснове ўдасканальваць сваю дзейнасць. Адзінства гэтых задач дасягаецца толькі на вышэйшых узроўнях педагагічный дзейнасці, якія і знаходзяць сваё адлюстраванне ў майстэрстве.

Сутнасць педагагічнага майстэрства заключаецца ў выкананні майстрам вытворчага навучання сваёй працы на ўзроўні ўзораў і эталонаў, адпрацаваных ў практыцы і ўжо апісаных ў метадычных распрацоўках і рэкамендацыях. Але часта яно праяўляецца і ў рацыяналізацыі метадаў і захадаў, якія не заўсёды апісаны ў літаратуры.

Крытэрыем майстэрства з'яўляецца ўменне майстра распрацоўваць уласную сістэму дасягнення выніку ў працэсе навучання і выхавання навучэнцаў ці адаптаваць чужую (вядомую, распрацаваную іншымі). У сувязі з гэтым дзейнасць майстроў вытворчага навучання можна ацэньваць з улікам наступных паказчыкаў:

1. Умее перадаць навучэнцам тое, што ведае сам, і так, як ведае сам гэта (І узровень — рэпрадуктыўны).

2. Умее не толькі перадаць інфармацыю, але і адаптаваць яе да ўзроўню падрыхтаванасці навучэнцаў (ІІ узровень — адаптыўны).

3. Умее не толькі адаптаваць інфармацыю, але і фарміраваць сістэму ведаў па асобных пытаннях (ІІІ узровень — лакальна-мадэлюючы).

4. Умее фарміраваць сістэму ведаў не толькі па асобных пытаннях, але і па ўсім курсе; умее абуджаць у большасці навучэнцаў імкненне авалодваць сістэмай ведаў па вытворчым навучанні (IV узровень — сістэмна мадэлюючыя веды).

5. Умее фарміраваць у навучэнцаў навуковае светаўспрыманне па вытворчым навучанні, а таксама каштоўнасныя арыентацыі (V узровень — сістэмна мадэлюючыя паводзіны).

Вырашэнне праблем канкурэнтаздольнасці майстроў вытворчага навучання і змяненні ў дзейнасці прафесійных навучальных устаноў запатрабавалі апераджальных пераўтварэнняў у сістэме павышэння кваліфікацыі майстроў вытворчага навучання. Павышэнне кваліфікацыі вырашае задачу задавальнення патрэбнасцей майстроў у павышэнні іх прафесійнай кампетэнтнасці.

**Людміла КРАСОЎСКАЯ,**
**майстар вытворчага навучання прафесійнага ліцэя №1 Магілёва.**

